■ Взгляд экономиста

# Запоздалая реакция

*В чем проблемы развития государственных предприятий, где выход из создавшегося положения? Об этом размышляет экономист Николай ЕФИМЧИК.*

СО ВРЕМЕНЕМ негосударственные структуры займут в экономике определяющее место. Пока же их доля в общем объеме промышленного производства — в пределах 5 процентов. Поэтому в нынешней ситуации опорными звеньями во всех отраслях народного хозяйства остаются государственные предприятия. И от того, как они работают, сколько и какую производят продукцию, будут зависеть эффективность развития экономики и благополучие населения.

Однако сегодня они оказались в сложном положении. Не по их вине нарушены сложившиеся производственно-экономические связи, что повлекло за собой перебои в материально-техническом обеспечении, во взаиморасчетах за купленные-проданные сырьевые ресурсы и продукцию, затоваренность и ряд других негативных последствий.

Например, вилейский завод "Зенит" выпускает фотоаппараты и некоторые другие конкурентоспособные изделия не только на внутренние рынке бывшего Союза, но и на мировом. В силу сложившейся ситуации и разницы в стоимости энергоносителей, а отсюда и в цене, его изделия оказались в значительно худшем положении по сравнению с российскими. Стоимость фотоаппарата одной из моделей российского производства — 9 тысяч рублей, а аналогичного по своим техническим характеристикам "зенитовского" на рынке России — 11.

Такие факты можно привести и относительно изделий и товаров других предприятий. Поэтому для конкурентоспособной борьбы на равных, с точки зрения технического уровня, должны быть и равные стартовые условия.

Второй важный фактор, сдерживающий нормальное развитие предприятий и производство продукции, — недостаток оборотных средств. Получается парадоксальная ситуация. С одной стороны, падают объемы производства из-за нехватки или отсутствия средств для платы за необходимые топливно-энергетические и другие ресурсы, а с другой — вырученные деньги за реализованную продукцию инфляция "съедает" так быстро, что их катастрофически не хватает. Поэтому и оборотные средства нуждаются в индексации, а в ряде случаев — в пополнении из бюджета. И не для того, чтобы удержать на плаву безнадежное предприятие. Речь идет о тех из них, в продукции и товарах которых нуждается государство не только сегодня, а и в перспективе, чтобы им можно было укреплять и развивать свою техническую базу. А на этой основе — выпускать изделия, соответствующие стандартам мирового уровня. Ведь брать кредит многим не по карману. Раньше он выдавался под 0,75—6 процентов годовых. Сейчас — под 210 процентов годовых при нестабильной экономике.

Эти и другие факторы отрицательно влияют на развитие экономики предприятий. А следовательно, регионов и республики в целом.

Падение темпов объемов производства в области началось с 1991 года. Так фактическое снижение составило 3,8 процента, в 1992-м — 6,6, 1993-м — 9,6, а за пять месяцев текущего года — 18,6 процента. Следует учесть, что за этот период индексы оптовых цен на промышленную продукцию постоянно росли: в 1991 году — в 2,3, 1992-м — 16,1 и 1993 г. — 12,4 раза. Инфляция и теперь пока не сокращается.

Сейчас такие экономические категории, как соотношение производительности труда и средней заработной платы, себестоимость продукции, фондовооруженность, фондоотдача и ряд других уже не только не заложены в экономических программах, но по существу и деятельность предприятий по ним не оценивается. Это не ностальгия по прошлому, а факты.

Обновление основных фондов идет крайне медленно либо вовсе приостановлено из-за недостатка финансовых средств. Например, пятая часть оборудования промышленных предприятий Червенского района имеет степень изношенности свыше 100 процентов. Износ основных фондов в целом по концерну "Промышленник" составляет 30 процентов, а 60 процентов — морально устаревшие.

Аналогичное положение и на ряде других предприятий.

Из месяца в месяц возрастает задолженность коллективов области поставщикам. Если на начало года она составляла 172,3 млрд. рублей, то теперь возросла до 345,4 млрд. В свою очередь встречные неплатежи увеличились с 225,6 до 395,9 млрд. рублей.

Особенно острым стал вопрос о расчетах за энергетические ресурсы, прежде всего за природный газ. По состоянию на конец мая задолженность потребителей этого вида топлива всех отраслей народного хозяйства области составила около 10 миллиардов российских рублей.

Вынужденные простои, сокращенная трудовая неделя стали для многих хроническим явлением. За пять месяцев потери рабочего времени составили 1,6 миллиона человеко-дней, что соответствует 11-дневной остановке всей промышленности области.

Можно приводить еще немало фактов и примеров подобного характера. Все это с особой остротой подчеркивает необходимость реализации мер по стабилизации производства. Однако принимаемые меры часто идут вслед за событиями и являются запоздалой реакцией на негативные последствия преобразований. Жизнь требует постоянного внимания в разумных пределах централизованного планового управления экономикой государственных предприятий.

Из любого кризиса выходят с помощью усиления этого механизма и рычагов. Здесь должны присутствовать и государственный заказ на те виды продукции и товаров, в которых испытывают недостаток потребители, различные формы и методы стимулирования предприятий (налоговые льготы, льготное кредитование и т.д.).

У меня, как у экономиста, не вызывает сомнения необходимость государственного регулирования заработной платы в зависимости от уровня и темпов роста материального производства и сферы услуг, развития малого бизнеса. Другой вопрос — выработка соответствующего механизма применительно к новым условиям хозяйствования.

И еще об одном. Положение с плановой, трудовой, исполнительной дисциплиной, дисциплиной поставок, цен вызывает серьезное беспокойство и озабоченность. Казалось бы, все есть — и законодательные, и нормативно-правовые акты, устанавливающие договорные отношения. А как дело доходит до исполнения, то нарушений хоть отбавляй.

Отдельные государственные предприятия определяют стоимость своего товара без достаточного экономического обоснования путем включения в рассчитываемую цену завышенных затрат. Такие факты имели место на Березинском и Городейском льнозаводах, логойском заводе "Эпос" и других. Только в прошлом году сумма выявленных нарушений по ценам составила около 14 млн. рублей. А за нарушение порядка формирования и применения цен в первом квартале в бюджет поступило около 600 млн. рублей.

В общем, складывается мнение, что пока в экономике идет процесс разрушения, а не созидания.

И, перефразируя известную поговорку, скажу: на Запад надейся (в смысле кредитов, инвестиций и т.д.), а сам не плошай. Не такие уж они доброжелатели, чтобы поднимать нашу экономику, не преследуя прежде всего свои интересы, которые не всегда могут совпадать с нашими. Нужно налаживать разумные деловые отношения с партнерами на взаимовыгодных условиях.

# СЯРЭБРАНЫ “КЛАНДАЙК”

**«Серабро — высакародны метал».**

*(Беларуская Савецкая Энцыклапедыя).*

АДНАПАВЯРХОВЫ будынак зарадна-акумулятарнай станцыі ў ваенным гарадку Мачулішчы наўрад ці можна назваць аб’ектам асаблівай важнасці. Праверка кіслародных балонаў, зарадка акумулятараў — вось і ўся яго “сакрэтнасць”. Праўда, без аховы, як і ўся іншая вайсковая маёмасць, ён не заставаўся. Дзяжурыў на станцыі ў тую красавіцкую ноч малодшы сяржант Трэгуб. З вечара да яго завітаў адзін знаёмы. Слова за слова — і прасядзелі за поўнач. А калі госць развітаўся, малодшы сяржант праз дваццаць хвілін прылёг. Адпачыць не ўдалося. З вуліцы даносіўся нейкі шум. Потым пад’ехаў аўтамабіль. У акне нечакана з’явіўся сілуэт чалавека ў вайсковай фуражцы. “Напэўна, праверка наведалася”, — падумаў Трэгуб. І звыкла пайшоў да дзвярэй. Папярэдне, аднак, спытаў:

— Хто там?

— Памочнік дзяжурнага па часці, — пачулася ў адказ.

Малодшы сяржант зірнуў у дзвярное “вочка” — тая ж вайсковая фуражка, адкрыў засаўку. І адразу ж аказаўся распластаны па сцяне. Спрактыкаваным рухам яму ламанулі рукі назад і пачалі вязаць. Краем вока Трэгуб заўважыў, што візіцёраў два: адзін у вайсковай форме, другі ў цывільным. Высокія і дужыя. Той, што быў у цывільным, пагрозліва сказаў: “Спакойна”. Потым сунуў руку ў кішэню, даючы зразумець: калі пікнеш, імгненна супакоім. Трэгуб жа і без таго быў настолькі разгублены і ашаломлены, што толькі калі начныя “госці” пачалі выносіць акумулятары, зразумеў: на станцыю зроблены разбойны напад...

ЯЎГЕН ДАЎЖЭНКА адбываў тэрміновую службу ў Архангельскай вобласці. 30 красавіка 1992 года на яго імя прыйшла тэлеграма з Мінска ад Юрыя Закурдаева. Тэлеграма мела ўмоўны характар і значыла: хутчэй прыязджай, для справы ўсё гатова. Праз некаторы час Даўжэнка ўжо кіраваў у Мінск. Вечарам таго ж дня да Даўжэнкі і Закурдаева далучыўся яшчэ адзін чалавек — Аляксандр Будніцкі. Яшчэ раз “пракруцілі” план будучай аперацыі, стараючыся не ўпусціць ніводнай дэталі, хаця ўсе падыходы да зарадна-акумулятарнай станцыі былі папярэдне добра вывучаны. Размеркавалі ролі. Даўжэнка апрануўся ў форму ваеннаслужачага, Будніцкі ў цывільным яго страхаваў. На Закурдаева леглі транспартныя клопаты. Ён сеў за руль аўтамабіля ГАЗ-66 і павінен быў пільна сачыць за абстаноўкай, каб у выпадку чаго даць папераджальны сігнал і забяспечыць “адыход”.

Чакалі да трох гадзін ночы. Калі на вуліцы стала пуста — ні машын, ні людзей, Даўжэнка з Будніцкім накіраваліся да дзвярэй зарадна-акумулятарнай станцыі. Разлік быў просты, як двойчы два: дзяжурны падумае, што прыехала праверка, і адкрые памяшканне. А астатняе — справа тэхнікі. Так яно і атрымалася. Дзяжурны спытаў, хто такія. Даўжэнка ўпэўнена адказаў, шчоўкнула засаўка і... Скруціць дзяжурнага аказалася справай некалькіх хвілін. А праз хвілін пятнаццаць аўтамабіль з трыццаццю дзевяццю акумулятарамі ўжо імчаў да пасёлка Стайкі Мінскага раёна. Непадалёку ад яго ў рацэ Свіслач была да пары да часу прыхавана начная здабыча.

Даўжэнка, каб забяспечыць сабе алібі, адразу ж паехаў на месца праходжання службы ў Архангельскую вобласць. У канцы мая 1992 года ён быў звольнены ў запас і вярнуўся на месца пастаяннага жыхарства ў пасёлак Мачулішчы. Летам Даўжэнка, Закурдаеў і Будніцкі зноў сустрэліся. Ля таго месца на беразе Свіслачы, дзе вада надзейна схавала акумулятары. Дасталі іх з рачнога дна і раздзялілі. Будніцкі і Закурдаеў сваю частку адвезлі ў вёску Кароткавічы Жлобінскага раёна і схавалі ў лесе.

АКУМУЛЯТАР толькі для недасведчанага чалавека акумулятар. Для Даўжэнкі ён быў своеасаблівым Кландайкам. Серабро, якім начынены гэты агрэгат, — рэч дарагая і дэфіцытная. Калі яго выплавіць, а потым прадаць, то можна зрабіць немалыя грошы: маркі, долары, рублі. Усё роўна якая “валюта”. Галоўнае — бізнес. Хоць і рызыкоўны, але не пыльны.

Аднак акумулятары самі па сабе — толькі паўсправы. Асноўнае — як выплавіць гэты серабрысты метал. Тут патрэбны і спецыяліст з адпаведнай адукацыяй, і абсталяванне, тэхналогія. Якраз гэтыя праблемы апошнім часам турбавалі больш за ўсё Яўгена Даўжэнку. Але хто шукае, той знаходзіць. Пашанцавала і нашаму герою. Восенню 1992 года ён пазнаёміўся з навуковым супрацоўнікам лабараторыі тэрмадынамікі арганічных рэчываў НДІ фізіка-хімічных праблем пры Белдзяржуніверсітэце Віктарам Сеўруком. Той не стаў асабліва ўнікаць у дэталі прапанаванай яму здзелкі і за адпаведную плату згадзіўся выплавіць з акумулятарных пласцін серабро. Лабараторыя, муфельная печ, якая забяспечвала разагрэў да 1.100 градусаў, давалі такую магчымасць. Праўда, крыху турбавала начальства. Таму Сяўрук прыладзіўся выплаўляць серабро вечарам, калі нікога ў лабараторыі няма.

Але аднаго спецыяліста-"металіста" для Даўжэнкі аказалася мала. Каб “сярэбраны бізнес” пайшоў шпарчэй і пачаў даваць прыбытак, патрэбна было знайсці яшчэ чалавека. І зноў удача ўсміхнулася Яўгену. На гэты раз у лабараторыі электроннай тэхнікі Фізіка-тэхнічнага інстытута Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь — у асобе супрацоўніка Аляксандра Томчанкі.

“Творчы саюз” паміж увішным прадпрымальнікам і двума навукоўцамі ў хуткім часе пачаў даваць свае вынікі. Даўжэнка рэальна змог адчуць вагу сярэбраных зліткаў. Праўда, сякія-такія рознагалоссі ўзнікалі. Напрыклад, за 2 кілаграмы выплаўленага серабра ён, каб аддзячыць, прынёс Сеўруку камбінезон. Апошняга гэта, што называецца, абразіла. І Сяўрук наадрэз адмовіўся супрацоўнічаць. Даючы адначасова зразумець, што рызыкаваць за нейкія там “анучы” не будзе. Даўжэнка адчуў сваю памылку і паабяцаў за аказваемыя паслугі нядрэнна плаціць. Сышліся на 5 цэнтах за грам серабра. Пры ўмове: плаціць не пасля збыту тавару, а адразу. За тры месяцы Сяўрук у лабараторных умовах выплавіў 20 кілаграмаў серабра высокай пробы. За што атрымаў 90 амерыканскіх долараў.

АДНАК сярэбраныя зліткі самі па сабе — мёртвы капітал. Каб у кішэні зашамацелі долары або маркі, патрэбна прадаць гэтыя зліткі. Пошук рынкаў збыту — не менш адказны і трывожны этап. Без пасрэднікаў тут проста не абысціся. Кола знаёмых Яўгена Даўжэнкі пачало прыкметна пашырацца. Вось некаторыя вытрымкі з абвінаваўчага заключэння:

“..Даўжэнка перадаў Еўтушэнку для збыту па 25 рублёў за грам 9 кг серабра агульным коштам 450 тыс. рублёў. Праз дзесяць дзён, даведаўшыся, што Еўтушэнка збыць метал не можа, забраў яго і 1 кг 130 грамаў збыў Іовенку, атрымаўшы за яго 200 германскіх марак”. Крыху пазней ён збудзе таму ж Іовенку яшчэ 9 кг серабра 916-й пробы, за што атрымае 450 долараў ЗША і 45 тысяч рублёў. Сярэбранымі зліткамі Даўжэнка разлічыцца з Закурдаевым за прададзены яму аўтамабіль ЗІЛ-131. Апошні прадасць метал нейкаму мужчыну па імені Альгіс за 633 долары ЗША.

У сферу “сярэбранага бізнесу” аказаліся ўцягнуты амаль два дзесяткі чалавек. Сярод іх — камерцыйны дырэктар фірмы “Долар” А.Бельмач, забеспячэнец НВП “Інфратэрм” С.Бараноўскі, начальнік аддзела збыту вытворча-камерцыйнай фірмы “Парыс” М.Вараўка, майстар Маладзечанскага завода парашковай металургіі В.Высоцкі, мастак фірмы “Л.О.Н.” В.Купрыянаў, дырэктар ТАА “Таха” С.Цураканаў і іншыя.

...Развязка наступіла нечакана. У студзені 1993 года работнікі міліцыі затрымалі некалькі чалавек за незаконным збытам зліткаў серабра. Была ўзбуджана крымінальная справа. Пацягнулася нітачка. Да яе далучылі справу аб выкраданні акумулятарных батарэй у воінскай часці. Кола замкнулася. І тыя, каму здавалася, што яны нарваліся на сярэбраны “Кландайк”, валютную жылу, паўсталі перад сумным фіналам. Апошнюю рысу ўім падвядзе суд.

*Уладзімір МАЦЭЛЬ,*
*намеснік начальніка аддзела Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.*

*Мікалай ЖУЧКО,*
*кар. “Мінскай праўды”.*

## УСІМ СЯСТРЫЦАМ ПА ЗАВУШНІЦАХ? ДОБРА!

У нашы дні ўраўнілаўка становіцца перажыткам мінулага, яе прыхільнік рызыкуе быць залічаным у разрад кансерватараў.

А ў «Беларускаліі» прынцыпам «усім пароўну» ў апошні час карыстаюцца даволі часта. Не сакрэт, напрыклад, што ў час летніх водпускаў некаторыя чыноўнікі ўмудраюцца за грамадскія сродкі пабываць, скажам, у санаторыі, звазіць туды жонку, цешчу. А хтосьці гадамі не можа трапіць у аздараўленчую ўстанову. Таму савет прадпрыемства вырашыў: перад адпачынкам кожны работнік атрымлівае суму, роўную дзесяці мінімальным зарплатам, менавіта для аздараўлення.

Падаражала харчаванне ў сталовых? Гэта таксама кампенсуецца прадпрыемствам, кожны калійшчык, незалежна ад пасады, мае права на кампенсацыю ў памеры 60 тысяч рублёў у месяц. Хочаш — ідзі ў сталоўку, рэстаран ці купляй прадукты, гатуй сам.

Пэўную палёгку ў параўнанні з іншымі адчуваюць і маладыя сем"і работнікаў аб"яднання. Ім выплачана з пачатку года беспрацэнтных пазык больш як на 400 мільёнаў рублёў. Вельмі адчувальная дапамога, калі ўлічыць, што дзяржава за пазычаны рубель патрабуе за год дадаткова вярнуць два з палавінай «зайчыкі».

*/Наш кар./.*



*Штодзень у Уздзенскую цэнтральную раённую бібліятэку імя Паўлюка Труса прыходзіць нямала чытачоў самых розных узростаў і прафесій. І кожнага з іх бібліятэчныя работнікі абслугоўваюць культурна і ветліва. Узначальвае бібліятэку вопытны спецыяліст Клаўдзія Антонаўна Рогава. З ёю цікава і з ахвотай працуецца бібліятэкарам, а чытачы праводзяць тут свой вольны час з вялікай карысцю. У бібліятэцы многа прыгожа аформленых тэматычных кніжных выставак, часта праводзяцца сустрэчы з пісьменнікамі-землякамі, абмеркаванне цікавых кніг. Ужо каторы год у чытальнай зале бібліятэкі наладжваюцца выстаўкі работ чытачоў і знакамітых умельцаў з іншых населеных пунктаў раёна. Гэта вязанне, вышыванне, маляванне, іншыя віды дэкаратыўна-прыкладной творчасці і выяўленчага мастацтва.*

*На здымку: К.А.РОГАВА.*

Фота Міхаіла БУЛАТА.

■ Карэспандэнта вядзе пісьмо

# ТРУШЧОБА

***“Кватэра мая знаходзіцца ў старым трухлявым будынку, узведзеным яшчэ ў 1936 годзе / са слоў пажылых людзей/. Яна — цесная, няма нават дзе паставіць газ. Так я і пражыла ўсё жыццё без газу. Сцены патрэскаліся, падмурак згніў, вокны — таксама. У амаль такіх жа умовах тут жывуць яшчэ шэсць сем"яў, пераважна — пажылыя людзі.***

***Атрымала я кватэру ад торфабрыкетнага завода. Потым на яго базе ўзнік завод металаапрацоўчага аб"яднання. За 27 гадоў ніхто сур"ёзнага рамонту ў маёй кватэры не рабіў, хоць я не раз звярталася па дапамогу на завод. Звычайна адказ быў такі: “Вы — не наша, няхай рамонт робіць сельсавет. Вы ж калгаснікаў абслугоўваеце”.***

***І сапраўды, звыш 30 гадоў загадчыцай ФАПа я мясіла гразь, снег, абслугоўваючы і калгаснікаў, і рабочых завода. А цяпер — нічыя!***

***Мне абяцалі, што не пазней 1990 года выдзеляць кватэру. Я нават аднесла заяву ў прафком завода /цяпер ён завецца “Радзічава”/. Мінула чатыры гады. Паблізу ад нас на сродкі завода будуецца 4-кватэрны дом. Канца работам не відаць. Ды я і не цешу сябе надзеяй на атрыманне новага жылля.***

*Лілія ХАЦЬКО,*
*ветэран працы, пенсіянерка*
*/пад пісьмом — і подпісы шасці яе суседзяў/.*
*в. Радзічава Слуцкага раёна".*

**АД РЭДАКЦЫІ.** Гэты барак мог бы зацікавіць вядомага кінарэжысёра Станіслава Гаварухіна і трапіць у яго карціну “Так жыць нельга”.

Латаныя знадворку лістамі ржавага жалеза, толю, дошкамі сцены — нібы ашмоцце старой самаробнай коўдры з хаты селяніна-бедняка дваццатых гадоў. У катушках-пакойчыках без камунальных выгод, з прагнілай падлогай жывуць людзі. Як ні дзіўна, пры сустрэчы са мной яны не сталі гаварыць гнеўных слоў, спаборнічаць у падачы адмоўных фактаў. Напэўна, ужо страцілі ўсякую надзею выбрацца з гэтай трушчобы эпохі развітога сацыялізму. І ветэран вайны інвалід другой групы Піліп Гурыновіч з жонкай Алімпіядай, і пенсіянеры Канстанцін і Соф"я Балахоўскія, і рабочая прадпрыемства “Радзічава” Антаніна Найдзёнава, і іншыя.

Некаторыя з іх, праўда, спадзяюцца, што пасля здачы па суседству 4-кватэрнага дома нешта перападзе і ім. Аднак, як зазначыў дырэктар прадпрыемства “Радзічава” Уладзімір Парахневіч, з-за цяжкага фінансавага становішча стрымліваецца завяршэнне дома. Удалося пакуль узвесці сцены і дах. Няма сродкаў на дарагія лесаматэрыялы. Ды калі і ўдасца нейкім цудам здаць дом пад ключ, кватэры ў ім выдзеляць чаргавікам, людзям сямейным. Лілія Васільеўна жыве адна, так што кватэра ёй там не “свеціць”.

А ў свой час жыллёвая праблема Л.Хацько /калі верыць дырэктару Слуцкага металаапрацоўчага аб"яднання Георгію Бахановічу/ была блізкая да вырашэння. Два гады назад прадпрыемства пабудавала на долевых асновах у Слуцку 44 кватэры. І калі б, сцвярджае Георгій Іванавіч, Л.Хацько звярнулася да яго, ёй бы выдзелілі аднапакаёвую кватэру. Але яна, маўляў, кудысьці з"ехала з Радзічава. Расказваю пра гэта Лілії Васільеўне.

— Куды я магла з"ехаць? — здзіўляецца яна.— Хіба да дачкі — у вёску Лядна нашага ж раёна: тыдні на два-тры. А пра тыя гарадскія кватэры нічога не ведала. Ніхто мне і слоўца не сказаў: ні дырэкцыя аб"яднання, ні на заводзе, дзе ляжыць мая заява на паляпшэнне жыллёвых умоў. Хто сёння на пажылога чалавека ўвагу звяртае?

Мне думаецца, ёсць ва ўсёй гэтай гісторыі і віна кіраўніцтва металаапрацоўчага аб"яднання . Не ў меншай ступені кладзецца яна і на плечы кіраўнікоў калгаса імя Дзяржынскага перыяду 70—80-х гадоў. Калі, як даведаўся я ў райвыканкоме, тут будавалі жыллё выключна для членаў гаспадаркі. Тым жа, хто абслугоўваў іх — настаўнікам, медработнікам, педагогам і г.д., кватэры не давалі. Раённыя ўлады ведалі пра гэты перакос, канстатавалі факт, а рашучасці ў іх, каб дзейнічаць, не хапала. Для калгаса- мільянера ў тыя застойныя часы няцяжка было б у адной з трох вёсак, якія абслугоўвала Л.Хацько, купіць пусты сялянскі дом, падрамантаваць яго — і жыві на здароўе.

Аднак не будзеш жа сёння аглядвацца на дзень учарашні. Не позна і цяпер паправіць колішні перакос. І, відаць,варта сённяшняму старшыні калгаса больш уважліва паставіцца да праблемы Л.Хацько, дапамагчы ёй.

*Міхась ТЫЧЫНА.*
*Слуцкі раён.*

■ Актуальнае інтэрв"ю

# У СУЧАСНАЙ АРМІІ НЯМА СВАІХ ПЕСЕНЬ

**Менавіта так. Але песні не галоўнае ў патрыятычным выхаванні воінаў. Тады што? Аб поспехах і праблемах у гэтым кірунку наш карэспандэнт вядзе гутарку з начальнікам групы ўпраўлення выхаваўчай работы Міністэрства абароны палкоўнікам І.РОГАЧАМ.**

***— Іван Іванавіч, у чым жа сёння сутнасць патрыятычнага выхавання ў маладой беларускай арміі, на якія духоўныя арыенціры бяруць кірунак вайскоўцы?***

— Патрыятычнае выхаванне — састаўная частка агульнага выхаваўчага працэсу ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь. Па сваёй прыродзе, калі так можна сказаць, патрыятызм — катэгорыя сацыяльна-педагагічная. Тут вызначаны такія паняцці, як адносіны чалавека да Радзімы, свайго народа, духоўных каштоўнасцей грамадства, традыцый рэспублікі.

Ва Узброеных Сілах патрыятычнаму выхаванню заўсёды надавалася вялікае значэнне. Бо без любові да Радзімы, без пачуцця святой вернасці воінскаму абавязку нельга ўявіць сапраўднага абаронца роднай зямлі. Вопыт тут ёсць, і даволі значны. Але ў апошні час назіраюцца і пэўныя змены ў адносінах да важнай і вельмі патрэбнай работы. Мы заўважаем, што некаторыя плыні грамадства вельмі ахвочыя да антыармейскай агітацыі, дапускаюць фальсіфікацыю ў асвятленні гістарычнага мінулага беларускага народа. Каму-нікаму хочацца прынізіць нашу Вялікую Перамогу, падзяліць уклад, што ўнеслі народы ў разгром ворага. Падзяліць, але не пароўну, а з прымяненнем “сваіх” крытэрыяў. Ды хіба можна так падыходзіць да гісторыі? Ветэраны змагаліся за адну Айчыну, і калі гінулі, іх хавалі ў адной брацкай магіле.

Ды што казаць! Ёсць факты, якія наводзяць на сумны роздум. У школах, на прадпрыемствах закрываюцца музеі баявой славы, зневажаюцца ветэраны на вуліцах, у чэргах.

***— У выніку зніжаецца прэстыж вайсковай службы?***

— Так. Прадстаўнікі маладога пакалення нярэдка адмаўляюцца ад службы ў арміі. Праведзенае сацыялагічнае даследаванне паказала: 42 працэнты апытаных юнакоў не жадаюць служыць. Яны лічаць, што гэта дарэмна патрачаны час.

***— І нават пакаранне не палохае?***

— Палохае. Ды хіба раней было так, што прымушалі ісці на службу? Прызыўнікі саромеліся, калі з-за хваробы ці па іншай прычыне не бралі ў армію. Сёння прэваліруюць іншыя падыходы. Модна праўдамі і няпраўдамі пазбегнуць вайсковай службы. Узяць, напрыклад, апошні прызыў. 1.300 юнакоў у Мінску і Мінскай вобласці не з"явіліся своечасова на прызыўныя пункты.

***— Іван Іванавіч, усё ж, нягледзячы на негатыўныя факты, большасць прадстаўнікоў маладога пакалення пачэсна выконваюць вялікі абавязак, раўняючыся на справы франтавікоў, традыцыі тых, хто вызваляў Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.***

— Гэта радуе. На сумленныя адносіны да выканання воінскага абавязку і накіравана патрыятычнае выхаванне ў войску. Формы і метады важнай работы — розныя, мэта адна — выхаваць адданага Бацькаўшчыне вайскоўца, майстра ваеннай справы. Пры падрыхтоўцы да святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у патрыятычнай рабоце адбыўся зрух да актыўнага правядзення разнастайных мерапрыемстваў. Сустрэчы з удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, урокі мужнасці праходзяць у часцях і падраздзяленнях цікава і арганізавана. Шчырыя размовы аб подзвігах, аб неабходнасці працягваць і прымнажаць традыцыі старэйшага пакалення выклікаюць у маладых салдат пачуццё гонару за справы сваіх дзядоў і бацькоў, арыентуюць на добрыя здабыткі ў вучобе і службе.

Увогуле патрыятычнай рабоце спрыяе адкрытасць арміі. Маю на ўвазе правядзенне дзён адкрытых дзвярэй у часцях і злучэннях, дзён прызыўнікоў. Юнакі бачаць тэхніку і ўзбраенне, маюць магчымасць пазнаёміцца з армейскім парадкам, укладам вайсковага жыцця.

***— Ажыццяўляецца гэтая работа і на тэарэтычным узроўні?***

— Яскравае таму сведчанне — навукова-гістарычная канферэнцыя, прысвечаная 50-годдзю вызвалення Беларусі, у якой актыўна ўдзельнічала Міністэрства абароны. Таксама з нашага боку аказваецца дапамога і падтрымка ў правядзенні Вахты памяці, пошукавай работы. Урачыстасці з нагоды юбілейнай даты адбудуцца ў кожным гарнізоне.

***— Раней патрыятычнаму выхаванню дапамагала шэфская работа.***

— Яна і цяпер не затухае. У нас добрыя кантакты з Саюзам пісьменнікаў Беларусі, ваенна-шэфскай камісіяй, якую ўзначальвае вядомы кампазітар Ігар Лучанок. Работы тут шмат. Няма мастацкіх твораў аб сучаснай арміі, няма сваіх песень.

***— Ці будуць?***

— Веру. І не толькі таму, што я аптыміст. Многія творчыя людзі і цэлыя мастацкія калектывы шчыра жадаюць беларускай арміі хутчэйшага станаўлення, робяць для гэтага ўсё магчымае. Але некаторыя ведамствы і ўстановы пакуль знаходзяцца ўбаку ад патрыятычнай работы, памылкова лічаць яе клопатам толькі Міністэрства абароны. Такую пазіцыю трэба ім мяняць. Патрыятычнае выхаванне падрастаючага пакалення і ўсяго насельніцтва — справа агульная.

Зараз мы святкуем 50-годдзе вызвалення Беларусі. А наперадзе — новая знамянальная дата — 50-годдзе Вялікай Перамогі. Ёсць усе падставы для таго, каб выхаванне патрыятызму і мужнасці ўзнялося ў нас на больш высокую ступень.

*Гутарыў Уладзімір РУДЭНКА.*

